Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень. Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 злотыя. Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 24. Вільня, Пятніца, 8-га жніўня 1924 г. Год I.

## Ідэйная эвалюцыя.

Уся польская прэса ў адзін голас адзначае паважнасьць пераживанага цяпер Польшчай мамэнту. „Адначасна з нападамі дывэрсыйных банд,—кажа „Gaz. Warsz.",— мучыць нас забастоўка на Горным Сьлёнску, якая прыймае ўсё больш пагражаючыя формы і разьмеры".—„У мамэнт найвялікшага напружаньня нэрваў усяго дзяржаўнага арганізму ў барацьбе за здаровыя грошы, за актыўны таргові балянс—раптам выбухае забастоўка 200,000 гутнікаў і сьлёнскіх капальняных работнікаў, як пратэст проці новае сыстэмы дзесяцігадзіннае працы, уведзенай урадам, як неабходная патрэба. У часе, калі заграніца заўсёды глядзіць на нас з падазрэньнем, як на край з неўстаноўленым яшчэ ўнутраным ладам,—усьцяж надыходзяць страшэнныя весткі, што ў такім-то павеце, у 50 кілямэтрах ад граніцы, атрад, аружны кулямётамі, ды ручнымі гранатамі, напаў на места, мястэчка, вёску, абрабаваў, разграбіў, ды ўрэшце ўцёк заграніцу—цэлы...." Так піша другая эндэцкая газэта „Dzien. Poznański". Польскі работнік на Горным Сьлёнску—кажа далей тая-ж газэта—„цераз два гады пасьля далучэньня да польскай Мацеры, ужо выступае да сусьветнае акцыі. Кідае працу, сваей забастоўкай руйнуе гаспадарча наш небагаты яшчэ скарб, паралізуе гаспадарчае жыцьцё дзяржавы, блутае і так ужо цяжкое эканамічнае палажэньне краю". А да горна-сьлёнскае забастоўкі далучаюцца і работнікі дамброўскага району, што ў свой чарод зьвязана з агульным эканамічным крызісам ад.... санацыі валюты!

Мы зумысьля затрымаліся на заявах эндэцкіх газэт, бо ў іх абвіненьнях польскага работніка ў недастатку патрыатызму мы бачым вельмі важную праяву. Паміж радкамі можам чытаць, што тыя ідэйныя падставы чыстага нацыяналізму, на якіх сучасная Польшча, пачынаючы ад пана Язэпа Пілсудскага, будуе сваю дзяржаву, аказаліся па сэрцу толькі польскаму дробнаму мяшчанству: польскаму работніку, які пераканаўся, што „свой" фабрыкант гэтак сама абдзірае яго, як і „чужы", зарабляючы па 100—200 проц., гэтыя нацыяналістычныя ідэі нічога ня кажуць ані для розуму, ані для душы, ані для сэрца... Ня кажуць нічога акурат так сама, як і буйнаму капіталу і абшарніцтву, якія ўсемі законнымі і незаконнымі спосабамі ухіляюцца ад вымаганых ад іх „дабравольных" і адкрыта-прымусовых ахвяр з іх маемасьці на будаваньне Польскае дзяржавы, стараючыся ўвесь цяжар гэтага будаваньня перакласьці на плечы працоўных масаў....

Дагэтуль польскія „сацыялісты" стараліся сваю нацыяналістычную ідэалёгію правадзіць у польскія працоўныя масы кантрабандай: прыкрываючы яе лёзунгамі сацыяльнае барацьбы і „работніцка-сялянскага ураду". У імя вузка панятага і аднабокага нацыянальнага ідэалу яны, аднак, на дзеле праводзяць ідэю не барацьбы, а прымірэньня з „сваей", „роднай" буржуазіяй, зусім так сама, як някалі блізкі ім па духу Керэнскі пад чырвонымі штандарамі вёў аружныя масы народаў Расеі на крываваю бойню дзеля карысьці францускага і англійскага капіталу.... Але іменна гэта давяло Керэнскага да поўнага банкруцтва,—акурат так сама, як нацыяналізм ППС давёў гэтую партыю да ўтраты ўсялякіх уплываў сярод работнікаў Польшчы.

Вышэй памянёная эндэцкая газэта „Dzien. Pozn." кажа, што перад увядзеньнем 10-гадзіннага дня вяліся перагаворы з прадстаўнікамі работнікаў, і ўрад публікаваў апавяшчэньні аб „патрыатычнай уступчывасьці работнікаў". Гэта зусім зразумела: бо гэтыя перагаворы ад імя працоўных вялі пераважна прадстаўнікі партыі ППС, якія па старой памяці і як інтэлігентныя сілы займаюць яшчэ кіраўнічыя становішчы ў работніцкіх арганізацыях. Калі-ж прышлося зьдзейсьніць усё тое, што ППС абяцала ад работніцкага імя, калі прыйшлося рабіць выбар паміж даволі падазроным „патрыатызмам" і клясавымі інтарэсамі работнікаў, дык тыя перачыркнулі ўсе ўмовы з урадам і фабрыкантамі і пайшлі сваей дарогай, даючы, паводле „Dzien. Pozn.", послух камуністам....

Гэтыя адзнакі вызваленьня польскіх працоўных масаў ад старых романтычна-нацыяналістычных уплываў маюць нязвычайна вялікую вагу і для тых народаў, якія, жывучы пад уладай Польскае дзяржавы, сталіся аб'ектам самае цынічнае днацыяналізацыі і пажыраньня. Друкуючы нішэй справаздачу аб „шчырых прызнаньнях" галоўнага кіраўніка сучаснае польскае нацыяналістычнае палітыкі, п. Ст. Грабскага, мы зусім згаджаемся з аўтарам справаздачы, які ня верыць, каб польскі работнік пайшоў па дарозе, якую намячаюць паны Грабскія, Тугутты і інш. Затое мы верым, што недалёкі той час, калі працоўныя масы Польшчы здабудуць у сваей Бацькаўшчыне належнае ім месца, што яны адкінуць, як нешта агіднае і нягоднае, усю дасюлешнюю польскую нацыянальную палітыку і пададуць Беларускаму народу — народу працоўных сярмяжнікаў і такіх-жа работнікаў—братнюю руку, запраўды як „вольныя вольным", „роўныя роўным".

## Разьвязаньне нацыянальнага пытаньня па рэцэпту п. Ст. Грабскага і К-о.

У нядзелю, 3 гэтага жнівеня, ў Вільні адбыўся рэфэрат праф. Ст. Грабскага, які, відаць, будучы захоплены сваім дзіўным творам—„ензыковымі ўставамі", хацеў ці то задзівіць сваей „геніяльнасьцяй", ці то пераканаць віленцаў у правільнасьці прынятых у Польшчы шляхоў развязаньня труднае нацыянальнае праблемы.

Шкада толькі, што мала хто з беларусаў зацікавіўся паслухаць так важную для нас праблему ў асьвятленьні чалавека, які фактычна зьяўляецца адначасна й прадстаўніком думкі Польскага Ураду і прадстаўніком пэўнае, кіруючае ў сучасны мамэнт, часткі Польскага грамадзянства. Шкада таму, што шмат хто з Беларусаў ясна яшчэ не здаець сабе справы з таго, што яму Польскі Ўрад гэтымі сваімі ўставамі рыхтуе й якое мэты хоча дапяць?!

Я, можна сказаць, першы раз пачуў такую „бязчэльную" прамову ад прадстаўніка „сільных гэтага сьвету" й да таго былага, а можа й будучага міністра народнае асьветы Польскае Рэспублікі: п. Грабскі так бязстыдна лгаў і чмуціў людзей!..

То ён казаў, што ён праціўнік розных гвалтаў, прымусаў і зьдзекаў у адносінах да беларусаў і украінцаў, дый зусім ня зьбіраецца зжэрці ці то здушыць і вынішчыць „меншасьці", а падходзіць да іх шчыра, каб даць ім пэўнае „ўлатвеньне" ў адносінах ды зносінах з польскім урадам; то тут жа тлумачыў з многазначнай і ядавітай усьмешкай, як ўлада думаець правадзіць прынятыя Соймам і Сэнатам „ензыковыя" ўставы ў жыцьцё. Напрыклад, кажа, калі хто захоча, каб на яго паданьне, пісанае па беларуску, урадовая ўстанова адказала і пабеларуску, то мусіць „крышку" даўжэй пачакаць, бо... ведама, пісаць адказ у дзьвёх мовах трэба больш часу,—а колькі?... Гэта трудна сказаць! (Можа нават і 10 гадоў, бо на паданьні, напісаныя па польску, мы часта чакаем па пару гадоў!.. *Рэд.*) А каб давесьці сваё права на пісаньне да Ураду па беларуску (трэба быць беларусам!), то пан міністар зазначыў, што гэта трэба рабіць урадова, а як...? нават сам з усьмешкай махнуў рукою!

Дык вось якая шчырасьць падыходу да разьвязаньня балючае для нас справы? дык гэта так „precz z szykanami" й прымусам?!

„Шчырасьць" прафэсара відаць ня ў гэтым, а зусім у другім: у тым, што ён так падкрэсьліваў і некалькі разоў з такім націскам паўтараў:

„Мы мусім спольшчыць беларусаў і „русінаў", (гэта значыць украінцаў), бо Польшча — толькі для палякоў! І мы зробім гэта не шляхам „гвалтаў" і „прымусу", а „ustawowo", — мы асымілюем меншасьці народныя так, каб нам на ўсіх тэрыторыях мець „адналіты польскі народ"!

Гэта значыць, што прафэсар сваімі ўставамі маніцца зрабіць усіх беларусаў і украінцаў „народам польскім"... Памажы табе божа, а мы пабачым!

Праўда, што хоць надта пераконываюча й з такім патосам, а на'т з біцьцём кулаком па сталу, даводзіў нам гэтую сваю праграму п. Грабскі, аднак, відаць, і сам ня вельмі верыць у гэта: дзякуючы таму,—казаў п. Грабскі,—што ў межах Польшчы жывуць ня ўсе беларусы й ня ўсе „русіны", а за межамі Польшчы іх ёсьць значна болей, асабліва „русінаў" (больш за 30 мільёнаў, тады, калі ў Польшчы іх толькі 4 мільёны),—нельга спадзявацца, каб меншая частка прыцягнула да сябе большую (асабліва пры такіх адносінах Польскае Ўлады! *Рэд*). Фэдэрацыя-ж магчыма была-бы толькі з гэтай мэтай!—казаў п. прафэсар...

Быў яшчэ адзін спосаб, які быццам-то ўперад Урад хацеў ужыць, каб разьвязаць гэтае „праклятае" для яго нацыянальнае пытаньне, але, як аказалася, спосаб—не рэальны.

А спосаб надта цікавы: спосаб мэханічнага пасяленьня палякоў на Крэсах Усходніх—дарогай калянізацыі.

Над ім, відаць, прафэсар паважна сушыў свае мазгі, бо нават статыстычна давёў яго нерэальнасьць. Так, напр.,—казаў п. Грабскі, — калі-б распарцэлявалі ўсе маёнткі на'т у такім ваяводзтве, як Тарнапольскае, выключна паміж палякамі і ня больш, як па 3 маргі на сям'ю, дык і то-б польскае большасьці там не зрабілі-б. Дый гэта немагчыма йшчэ і дзеля таго, што абшарнікі нават і на такое „сьвятое" дзела сваіх маёнткаў не дадуць!

Усё гэта, як бачыце, было аблічана для ваяв. Тарнапольскага, а што датычыць беларускіх ваяводзтваў, дык тут прафэсар махнуў толькі безнадзейна рукою...

Вось-жа, калі, пасьля аблічэньняў, гэны першы „мэханічны" праект няўдаўся, прыдумалі другі, ня менш „слаўны" спосаб: „ензыковыя" ўставы! Гэты апошні, як прызнаўся п. Грабскі, трэба было прыняць галоўным чынам дзеля заграніцы, якая, аднак, вымагае фактычнага забясьпечаньня „меншасьцям" правоў, дэкляраваных як Польскаю Канстытуцыяй, так і трактатамі.

Калі-ж, не здаволіўшыся такою справаздачаю п. былага міністра, адзін з прысутных на яго лекцыі паноў, К. Прушынскі, накінуўся на яго за тое, што **не забаранілі ўставамі беларусам ужываць кірыліцу**, то п. Грабскі пацешыў яго, кажучы, што гэта боязна было зрабіць, каб тая-ж заграніца не падняла гвалту, але **гэта зробіць сваім загадам п. міністар асьветы, які змусіць беларусаў карыстацца ў школах выключна толькі лацінінаю.**

Усё-б гэта было нічога, калі-б паны Грабскія гаварылі толькі ад сябе; але мы бачым, што яны прамаўляюць ад імя ня толькі Польскага Ураду і польскіх нават лявіцовых (ёсьць ведама, на чале з п. Тугуттам) партыяў, але бяруць на сябе сьмеласьць заяўляць, што яны выказваюць думкі амаль што не ўсяго чыста польскага грамадзянства!

Не хацелась-бы аднак верыць, каб польскі працоўны народ хацеў пайсьці намечаным п. п. Грабскімі і Тугуттамі шляхам, — шляхам гвалту, прымусу і зьдзекаў... ня хочацца верыць, каб польскі працоўны народ лічыў „сьвятым сваім абавязкам“ асыміляваць і апалячываць беларусаў і украінцаў. Бо-ж ніхто іншы, як толькі кляса капіталістаў, зацікаўлена ў нацыянальных захватах і войнах: бо ўсё, што разлучае пралетараў розных нацыяў, адначасна аслабляе і галоўную іх барацьбу супроць капіталістаў. Бо зусім немагчыма разьвязаць нацыянальную праблему бяз пэўных эканамічных і палітычных варункаў, якія вядуць да разбурэньня капіталістычнага ладу.

**Магіла.**

# З Сойму.

Як ведама, паводле Польскай Канстытуцыі кожны закон, каб атрымаць сілу, павінен прайсьці праз абедзьве законадаўчыя палаты — Сойм і Сэнат. Калі Сэнат у чым не згаджаецца з законапраектам, прайшоўшым праз Сойм, і робіць да яго свае папраўкі, дык закон ізноў паступае ў Сойм, які ўжо аканчальна ўстанаўлівае тэкст закону, або прымаючы або адкідаючы папраўкі Сэнату.

Дзеля таго Сойм, які ўжо пару тыдняў, як скончыў сваю працу ў апошняй сэсіі, цяпер, пасьля працы Сэнату над прынятымі Соймам праектамі, сабраўся 31 ліпня ізноў, каб зараз-жа пусьціць у жыцьцё тыя законы, якія ўрад лічыць найпільнейшымі. А перадусім — законы аб меншасьцях на нашых „Крэсах“.

З нязвычайнай шпаркасьцю прымаюцца Соймам па дакладам камісіяў законы — аб гарэлачнай манаполіі, аб мытных стаўках, аб фінансаваньні самаўрадаў, аб ахове дробных арандароў, аб стрыманьні высяленьня зямельных арандароў, аб напраўе скарбу і, урэшце, законы аб мовах меншасьцяў на „Крэсах Усходніх“.

Да гэтых апошніх уставаў прыняты ўсе стылістычныя папраўкі Сэнату, прынята таксама да школьнага закону папраўка, каб мяшаную школу ў школьным раёне абавязкова адчыняць тады, калі ў ім **толькі 20 дзяцей, жадаючых вучыцца на польскай мове, а ня 25**, як пастанавіў Сойм. Гэтай папраўкай і без таго варожы да нас закон **яшчэ пагоршаны.**

За тое Сойм адкінуў папраўку Сэнату, каб усе тры законы былі ўведзены ў жыцьце ня з 1 кастрычніка, як пастанавіў Сойм, але з 1 красавіка 1925 г.

Гэткім чынам усе тры „дабрадзейныя“ законы ўваходзяць у сілу ўжо з восені; з новага вучэбнага году ўводзіцца ў жыцьцё і новы — запраўды „двуязычны“ школьны рэжым, — бо адно будзе, як і ў Канстытуцыі, **сказана ў законе**, а другое будзе **„казаць“** беларусам рэальная запраўднасьць!

У канцы паседжаньня ППС, Хрысьц. Дэмакрат. і „Народова Партыя Роботніча“ ўносяць кожная асобна інтэрпэляцыі ў справе павялічэньня дня працы на Горным Сьлёнску. Абедзьве работніцкія партыі — клясавая і нацыянальная — віпавацяць у забастоўцы міністра Працы Дароўскага; з іх ППС пытаецца ў прэм‘ера, ці ён маніцца даць за гэта адстаўку міністру? Пры чытаньні інтэрпэляцыі хадэкаў уся лявіца крычыць: „Гэта-ж сам Корфанты зрабіў! (Корфанты — галоўны лідэр „работніцкай“ партыі „хадэкаў“ і адначасна адзін з павадыроў усяе Хіены, багацейшы прамысловец польскага Сьлёнску). Гэта-ж зрабіў ён, сын работніка! Даволі гэтага ашуканства!“

Калі лідэр нацыян. работнікаў Вашкевіч сказаў, што частка віны за гэтую забастоўку падае на мін. Дароўскага, дык гэты апошні ня вытрымаў і крыкнуў: „Гэта-ж дэмагогія!“ (нясумленнае кіраваньне настроем таўпы). Тады на левай палове салі ўзьнялася страшэнная бура — стуканьне ў сталы, крыкі: „у адстаўку“...

На ратунак свайго міністра ўстае сам прэм. Грабскі.

Лявіца крычыць, каб даў адказ мін. Дароўскі.

Пр. Грабскі кажа, што інтэрпэляцыя зьвернена да яго, як прэм‘ера, дык і адказ дае ён. Адказывае вельмі коратка, даводзячы, што загад мін. працы аб павялічэньні рабочага дню да 10 гадзін зусім не пярэчыць гарантаваным яго ўрадам і асабістым яго словам „заваяваньням польскай дэмакратыі“, бо гэты загад — часовы, — на 3 месяцы — і будзе скасаваны яшчэ хутчэй, як толькі немцы скасуюць 10-гадзінны дзень працы на сваей нямецкай палове Сьлёнску... (Крыкі: „Гэта-ж софізм!“ (крупельскае разумаваньне).

Далей прэм‘ер кажа, што яго ўрад ужо раз пратэставаў перад Лігай Народаў проці ўвядзеньня ў Нямеччыне таго, што ...ён сам увеў у Польшчы! і падасьць пратэст паўторна. А пакуль што іншага выхаду з цяжкай сітуацыі на Сьлёнску няма.

Цяпер, пасьля гэтай меры, — відаць, палягчэла, як пачалася забастоўка! Дый калі раўнавацца да Нямеччыны, дык можа прыдзецца спыніць у Польшчы „пашану да сацыяльных заваяваньняў“ — аж да часу, пакуль Нямеччыну не пакінуць душыць перамоўцы, якія пастанавілі цяпер выкалачываць з яе працоўнага народу ў бліжэйшыя гады амаль не **па мільярду залат. марак у год!..**

Пасьля прамовы прэм. Грабскага, Сойм большасьцю 8 галасоў адкінуў нават прапазіцыю ППС — адчыніць над ёй дыскусію.

Гэтым Сойм з‘укосна выразіў **даверые габінэту і — адобрыў загад мін. Дароўскага.**

Але на гэтую тактыку Сойму сьлёнскія работнікі ўжо адказалі вельмі выразна — **пашырэньнем і завастрэньнем забастоўкі!**

## ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

паслоў Беларускага Клюбу да п. Міністра публічных работ у справе **нявыдачы дапамогі сялянам** вёскі Клімавічы, Старасельскае гміны, на адбудову зьнішчаных вайной гаспадарак.

Жыхары вёскі Клімавічы, Старасельскае гміны, Слонімскага павету, ўжо тры гады дамагаюцца матар‘ялу на адбудову зруйнаванах вайной гаспадарак, але на жаль бюрократычныя ўстановы адносяцца лёгкадумна да іх слушных жаданьняў. Такое ненармальнае палажэньне даводзіць няшчасных проста да роспачы. Як доказ вышэй пісанага, прыводзім ніжэй зьмест заявы жыхароў вёскі Клімавічы ад 4 травеня 1924 г.

„Вельмі ушанаваныя і паважаныя п. паслы-беларусы! бяда, сьлёзы ды вялікае ўбожства прымушаюць нас зьвярнуцца да паноў з вялікай просьбай. Вярнуўшыся тры гады таму назад у край з бежанства, знайшлі мы ўсе нашыя будынкі зьнішчанымі вайкой. З таго часу пачалі мы прасіць адпаведную ўладу аб выдачы нам матар‘ялу на адбудову хатаў. Калі зьвярнуліся мы з просьбай да Дэрэчынскага Надлясьніцтва, дык яно скіравала нас да Бюро адбудовы ў Слоніме, а Бюро адбудовы—паслала нас назад да Дэрэчынскага лясьніцтва. Урэшце ў мінулую восень 1923 г., як быццам сонца нам усьмяхнулася, бо як Надлясьніцтва, так і Бюро адбудоўлі абяцалі выдаць нам матар‘ялу ў першых датах студзеня б. г. Але, куды там! Мінуў студзень, прыйшоў і травень, а мы як сядзелі ў мокрай зямлі, так і сядзім. Лясьніцтва тлумачыць тым, што ня мае цяпер будаўлянага лесу, а Бюро адбудовы закрылася. Што-ж нам цяпер трэба пачаць? Сядзець у зямлі так, як дагэтуль, ня маем ужо сілы, калі-ж вяснавое разводзьдзе зьнішчыла нашыя зямлянкі, мы прыняволяны жыць пад адкрытым небам. Дзеля гэтага са сьлязьмі ў вачах упрашаем на прамілы Бог беларускіх паслоў, як родных братоў, зьвярнуць увагу на наш пакрыўджаны лёс, давесьці да ведама аб гэтым Варшаўскага Сойму і Сэнату і падтрымаць нашае справядлівае дамаганьне аб выдачы нам матар‘ялу з лясоў Белавежы і Дэрэчынскага лясьніцтва на адбудову зьнішчаных вайной гаспадарак. Падаткі, якія ад нас вымагаюць, хаця-ж і з вялікай натугай, але плацім, а дапамогі з боку ўлады ня маем ніякай.

Верым, глыбака верым, што вы, паслы, дарагія браты, падтрымаеце нас і не дасьцё загінуць сваім братом па веры і крыві і прымусіце ўладу выдаць нам матар‘ялу на адбудову хатаў. Калі-ж вышэйшыя кіруючыя сфэры не паслухаюць вас і не задаволяць нашых жаданьняў, дык хай тады пастаўяць усіх нас з усімі сем‘ямі пад кулямёты і пазбавяць жыцьця, бо больш цярпець мы ўжо ня можам“.

Бачым, што ў той час, калі Польскі Урад мае вялізарныя даходы (мільёны фунтаў стэрлінгаў) з Белавежскай пушчы, прыроднага багацьця беларускага народу, беларускі селянін ужо ў працягу некалькіх гадоў прымушан жыць у зямлянках, ці проста пад адкрытым небам, бо Надлясьніцтва „ня мае“ матар‘ялу.

Дзеля вышэй пісанага ніжэй падпісаныя пытаюцца ў п. Міністра:

1. Ці ведама яму аб вышэй пісаным?
2. Ці маніцца ён загадаць, каб аказалі безадкладную дапамогу сялянам вёскі Клімавічы ў адбудове зьнішчаных вайной гаспадарак?

Варшава, 20 травеня 1924 г.

## ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

паслоў з Беларускага Клюбу да п. Міністра чыгунак у справе Міколы Касьперовіча, дарожнага майстра на станцыі Стоўпцы, з якім **несправядліва абыйшлася ўлада чыгункі.**

17 сьнежня м. г. Беларускі Клюб скіраваў да п. Міністра чыгунак просьбу Міколы Касьперовіча, дарожнага майстра на станцыі Стоўпцы, ў справе несправядлівых да яго адносінаў ўлады чыгунак. Міністэрства чыгунак не пажадала прыслаць адказ на перасланую просьбу, а лёс дарожнага майстра яшчэ больш пагоршыўся, і ўрэшце яго зусім звольнілі са службы і выкідаюць з памешканьня.

Дзеля характарыстыкі ўсяе справы падаем зьмест трэцяй просьбы М. Касьперовіча, атрыманай Беларускім Клюбам 14 красавіка 1924 г.:

„Уклонна прашу Сойм разгледзіць і разсудзіць маю просьбу, ў справе якой я падаў ўжо два прашэньні у Сойм праз Беларускіх паслоў: одно у сьнежні 1923 г. і другое ў студзені 1924 г. У гэных прашэньнях прасіў, **каб выказалі справядлівасьць**, бо ўлада чыгунак бяз усялякага паясьненьня прычыны бязьлітасна скрыўдзіла мяне тым, што ў 1923 годзе ў працягу васьмёх месяцаў выплачывала мне толькі $^{1}/_{7}$ частку пэнсіі дарожнага майстра, а за другую палову кастрычніка мінул. году—толькі 1.300.000 мк. п.

# Нацыянальная палітыка БСРР.

Можна напісаць найлепшыя законы, але самі па сабе яны йшчэ нічога не даюць: трэба, каб іх правяла ў жыцьцё тая ўлада, якая павінна гэтым займацца.

Вось-жа з гэтага пагляду вельмі цікавымі і павучаючымі зьяўляюцца пастановы другой сэсіі Цантральнага Выканаўчага Камітэту Радавае Беларусі, прынятыя адначасна з „языковымі“ законамі ў Польшчы і датыкаючыя іменна практычнага правядзеньня ў жыцьцё раўнапраўнасьці і поўнай нацыянальнай свабоды ўсіх народаў БСРР. Пастановы гэтыя маюць на ўвазе перш за ўсё ўвядзеньне беларускае мовы ў адміністрацыю і школу.

### І. Аб мове ў адміністрацыі.

1. Мовы нацыянальнасьцяў, насяляючых тэрыторыю Беларусі (беларуская, расейская, жыдоўская і польская), зьяўляюцца роўнапраўнымі.

2. З прычыны значнае перавагі ў БСРР беларускай нацыянальнасьці, беларуская мова выбіраецца, як мова пераважная для зносін між дзяржаўнымі, прафэсіянальнымі і грамадзянскімі ўстановамі і арганізацыямі.

3. Кожнаму грамадзяніну БСРР, да якой бы нацыянальнасьці ён ні належаў, забясьпечываецца права і рэальная магчымасьць карыстаньня сваёю роднаю моваю ў зносінах з рознымі органамі і ўстановамі Рэспублікі і ў зносінах з ім, пры яго зьвяртаньні ў гэтыя органы.

4. Побач з беларускаю моваю дзяржаўныя, грамадзянскія і прафэсіянальныя ўстановы і арганізацыі ў сваіх зносінах з жыхарствам карыстаюцца і другімі мовамі, у залежнасьці ад нацыянальнага складу жыхарства, да якога яны зьвяртаюцца.

5. Моваю зносін органаў БСРР з органамі ССРР і другіх Саюзных Рэспублік зьяўляецца мова расейская.

6. На зьездах, канфэрэнцыях, розных пасяджэньнях, мітынгах і на ўсякіх сходах кожнаму грамадзяніну забясьпечваецца права свабодна карыстацца сваёю роднаю моваю.

7. Адпаведна пералічаным вышэй прынцыпам усе савецкія, прафэсіянальныя і грамадзянскія арганізацыі і ўстановы павінны дапасаваць свае апараты да сапраўднага абслугоўваньня нацыянальных асаблівасьцяў жыхарства.

З гэтаю мэтай Народныя Камісарыяты БСРР пераводзяць свае дзелаводзтва на беларускую мову ў гэткія тэрміны:

А. У працягу аднаго году: а) кіраўніцтва справамі ЦВК, б) кіраўніцтва справамі Савету Народных Камісараў, в) НК Асьветы і г) Наркамзем.

Б. У працягу двох гадоў: а) Нар. Кам. Унутраных Спраў, б) Нар. Кам. Юстыцыі, в) Упраўленьне Упаўнаважанага НКПошт і Тэлеграфаў у той частцы яго органаў, якая абслугоўвае непасрэдна сельскае жыхарства, г) Нар. Кам. Сацыяльнай Забясьпекі.

В. У працягу трох гадоў: а) Нар. Кам. Аховы Здароўя, б) Нар. Кам. Фінансаў (мяйсцовыя органы) і г) усе іншыя савецкія ўстановы і арганізацыі БСРР.

**Увага 1-я.** Парадак і каляндарны плян пераводу дзелаводзтва на беларускую мову ў розных органах і ўстановах распрацоўвае само ведамства з такім разьлікам, каб у першую чаргу перавесьці на беларускую мову дзелаводзтва тых органаў, установаў ці арганізацыяў, якія непасрэдна абслугоўваюць беларускае жыхарства.

**Увага 2-я.** Пры пераводзе дзелаводзтва на беларускую мову трэба мець на ўвазе забясьпечаньне, ў сілу п. 3 гэтай пастановы, права і рэальнай магчымасьці кожнаму грамадзяніну карыстаньня мяйсцовымі мовамі ў яго зносінах з рознымі органамі і ўстановамі Рэспублікі.

8. Усе дакумэнты публічна-праваьога характару, як то: пасьведчаньні, выпіскі з актаў грамадзянскага стану і іншыя выдаюцца і друкуюцца на мовах беларускай і аднэй з трох другіх роўнапраўных моваў.

**Увага.** Дакуманты агульна саюзнага значэньня выдаюцца з тэкстам у беларускай і расейскай мовах.

9. Штампы дзяржаўных установаў і арганізацыяў робяцца з тэкстам у чатырох мовах (беларускай, расейскай, жыдоўскай і польскай), пячаткі—у беларускай мове.

10. Аснаўныя законы Рэспублікі друкуюцца, захоўваюцца і прад‘яўляюцца да карыстаньня ў чатырох указаных у п. 1 мовах; усе іншыя законадаўчыя пастановы і акты друкуюцца, захоўваюцца і прад‘яўляюцца да карыстаньня ў мовах беларускай і расейскай.

**Увага.** У выпадку неабходнасьці законадаўчыя пастановы распублікоўваюцца ва ўсіх чатырох мяйсцовых мовах.

11. Кожны супрацоўнік савецкіх, прафэсіянальных і грамадзянскіх арганізацыяў і ўстановаў абавязкова павінен ведаць беларускую і расейскую мовы, а неабходны лік супрацоўнікаў павінен дадаткова ведаць яшчэ жыдоўскую ці польскую мовы.

**Увага 1-я.** Лік супрацоўнікаў, якія павінны ведаць жыдоўскую ці польскую мовы, а ў мяйсцовасьцях са значнаю лічбаю латышскага і ўкраінскага жыхарства і гэтыя мовы, вызначаецца акруговымі Выканаўчымі Камітэтамі.

**Увага 2-я.** Гэты артыкул распаўсюджваецца на ўсіх служачых, за выключэньнем рабочых фізычнай працы ў установах.

12. Супрацоўнікі дзяржаўных, грамадзянскіх і прафэсіянальных установаў і арганізацыяў, не ўладаючыя беларускаю і расейскаю мовамі, а таксама тыя супрацоўнікі, якія, згодна пункту 11 і ўвагі да яго, павінны ўладаць аднэю з моваў нацыянальных меншасьцяў, пералічаных у гэтым

Затым, ўвосені, калі пачынаўся бягучы школьны год, калі падаў просьбу да Начальніка 4 дыстанцыі аб выдачы мне пасьведчаньня, якое сьцьвердзіла-б, што я атрымліваю запраўды такую малую пэнсію, на падставе чаго Дырэкцыя гімназіі паменшыла-б маім дзяцём плату за навуку, дык Начальнік 4 дыстанцыі такога пасьведчаньня ня выдаў, а загадаў, каб я пакінуў сваю службу, пасьля чаго ў лістападзе 1923 г. Надзорчы 8 акалодку забараніў мне нават працаваць на палатпе чыгункі.

Дзеля таго, што я даставаў такую малую пэнсію і ў дадатак па звальненьні мяне са службы я так зьбяднеў, што быў прымушаны спыніць вучэньне сваіх дзяцей, якіх паслаў на зялезнадарожныя работы, каб нешта зарабіць на пражыцьцё сям'і, якая складаецца з дзесяцёх асобаў, але Надзорчы 8 акалодку і ім не дазволіў працаваць на палатне, сказаўшы, што так хоча 4 дыстанцыя; дзеля гэтага, калі-б прадпрыемцы не дапамаглі-б у такі цяжкі для мяне зімовы час, я памер бы з голаду.

У працягу-ж чатырохгадовай маей службы ў Польшчы я ня меў ані воднага дня одпуску, тым часам як іншыя служачыя, мае калегі, мелі штогод і, хаця-ж ува ўсіх справах я складаў просьбы, а так сама і дакумэнты да Начальніка 4 дыстанцыі праз Надзорчага 8 акалодку, але ніколі ніякага адказу не атрымліваў.

Праслужыў я дарожнікам на станцыі Стоўпцы 18 гадоў без перарыву, служыў так сама ў часе вайны з бальшавікамі у чыгуначных дружынах: 9, 12 і 1/8 ў 1920 і 1921 гадох, з якімі з небясьпекай для жыцьця працаваў на перашыўцы каляі і стрэлак і рамонту мастоў; так сама прывёў ў парадак каляю і стрэлкі на сваей дзялянцы, што некаторыя мейсцы не вымагалі рамонту ў працягу трох гадоў; цяпер-жа, калі мінула вайна, а з ей і небязьпека, то ўжо прайшло блізка пяць месяцаў, як мне бяз усялякага паясьненьня адмовілі ў служе і на мае мейсца пасадзілі другога працаўніка, а цяпер адміністрацыя прымушае мяне аслабаніць памешканьне, не зварачываючы ўвагі на тое, што я ўсё свае жыцьцё аддаў на падняцьце дабрабыту чыгункі".

Дзеля вышэй пісанага ніжэй падпісаныя пытаюцца ў п. Міністра:

1. Дзеля чаго ў працягу 8 месяцаў выплацілі М. Касьперовічу толькі $^1/_7$ частку пэнсіі дарожнага майстра?

2. Ці маніцца п. Міністар загадаць, каб быў зроблены дасьлед у гэтай справе, а так сама паварот М. Касьперовіча на службу?

Варшава, 20 травеня 1924 г.

# Палітычныя падзеі.

## На падставе „ўзаемнасьці".

У Пецярбурзе арыштаваны 2 сябры польскай камісіі па звароту польскіх архіваў з Расеі. Радавы ўрад вінаваціць іх у шпіёнстве на карысьць Польшчы.

Неўзабаве пасьля гэтага з Варшавы высланы пад грынукай праз Стоўпцы ў ССРР, ужо аж 4 „нятыкальныя" сябры радавага пасольства, таксама па абвінавачаньню ў шпіёнстве на карысьць С.С.Р.Р.

## Работа камуністаў.

Польскія газэты падаюць, што па ўсей Польшчы ажывілася работа камуністаў, якія цяпер ствараюць на фабрыках так-званыя „кружкі абароны чыну" — па 6 маладых, нежанатых, прайшоўшых вайсковую школу работнікаў.

## Асьцярожнасьць.

Загадам ваеннага міністра павялічана ахова ўстановаў міністэрства,—скасаваны ўсе сталыя „пшэпусткі" для пастаўшчыкоў і інш. інтэрэсантаў.

## Пэпээсы забіваюць камуністаў.

У нядзелю П.П.С. склікала ў Варшаве мітынг пратэсту проці скасаваньня 8-гадзіннага дня працы на Сьлёнску. У мітынгу прынялі ўчасьце і камуністычныя арганізацыі. З прычыны таго, што арганізатары не дазвалялі аратарам камуністам прамаўляць з трыбуны, узьнялася бойка. Стрэлам з рэвальвэру забіты камуніст Бялы, 11 асоб ранены.

Калі паліцэйскі атрад сьпяшыў на гэтую бойку на грузавым аўтамабілі, дык на крутым павароце драўняны бок яго зламаўся, і ўсе 44 паліцыянты высыпаліся на брук. 10 з іх моцна пабіліся.

Рэзалюцыя сходу трэбуе скасаваньня загаду аб увядзеньні 10 гадз. дня працы і адстаўкі міністра Дароўскага.

## Бандытызм у Польшчы.

Толькі за адзін дзень 2-га жніўня адбыліся гэткія бандыцкія напады ў Польшчы:

Паміж Крыніцай і Кракавам бандыты напалі на цягнік і абрабавалі яго. Ёсьць раненыя. бандыты ўцяклі.

Каля Станіслалава (Галіччына) бандыты напалі на почту, якую бараніў (!) канвой, абрабавалі яе на 50.000 злот. і—ўцяклі.

У Баранавічах злавілі 3 бандытаў, якія абрабавалі нядаўна праяжджаўшых купцоў.

На станцыю Мацеевічы каля Катавіцаў на Сьлёнску напалі бандыты і зрабавалі ў яе начальніка 18.000 злотых казённых грошы. 2 бандыты забітыя, трэці ўцёк.

## Тайны склад аружжа ў Радаме.

У Радаме ў прыватным доме пад падлогай прыпадкова адкрыты склад аружжа—стрэльбаў, кулямётных лентаў і ручных гранатаў. У часе агульнага вобыску ў доме знойдзена яшчэ некалькі стрэльбаў.

„Dz. Wil." падае, што ўласьнік дому — былы лідэр радамскага аддзелу П.П.С.

## Справа бясьпечнасьці „Крэсаў Усходніх" у Радзе Міністраў.

Палітычны камітэт Рады міністраў ізноў разглядаў справу бясьпечнасьці на „Крэсах Усходніх" і прыняў рад пастановаў адносна барацьбы з нападамі, якія, ня гледзячы на ўсе дасюлешнія меры, ня спыняюцца.

## Прамова пана Прэзыдэнта Рэспублікі.

У Быдгошчы, на „Крэсах Заходніх" п. Прэзыдэнт Польскае Рэспублікі сказаў кароткую прамову, (відаць ужо працэнзураваную і адобраную ўрадам),—аб тым, што найвялікшай „залетай" палякоў на „Крэсах" павінна быць „цьвёрдасьць", што палякі павінны кіравацца ідэаламі, выпрацаванымі польскай мінуўшынай, але не зьмяняць іх на сучасныя і не захоплівацца ідэаламі далёкай будучыны, дый йшчэ павінны кіравацца найпякнейшай Канстытуцыяй 3-га мая (не 17 сакавіка?!). П. Прэзыдэнт падкрэсьліў, што праца палякоў на „Заходніх Крэсах" павінна быць карысьнейшай і прыемнейшай, чым за немцамі, бо яна там — „вольная і неабапёрта з свайго боку на нічыей крыўдзе".

Ня так, як на „Усходніх", можна дадаць...

## Адстаўка міністра працы ня прынята.

У зьвязку з інтэрпэляцыяй у Сойме міністру працы п. Дароўскі падаў прашэньне аб адстаўцы. Прэм'ер Грабскі адстаўкі ня прыняў.

## Дарагоўля ўсё расьце.

Сталая статыстычная камісія сьцьвердзіла, што за ліпень кошты ўтрыманьня ў Варшаве ўзрасьлі блізу на паўтара проц.

## Сэсія праваслаўнага сыноду ў Пачаеве.

У сярэдзіне жніўня ў Пачаеве адбудзецца сэсія варшаўскага сыноду, на якой будзе разгпядацца справа рэарганізацыі Віленскай Духоўнай Сэмінарыі, а таксама перагледзяць справу быўш. яе рэктара, архім. Піліпа, як ведама, звольненага япіскапам Хвядосам.

## Ратыфікацыя Клайпэдзкай Канвэнцыі.

Літоўскі Сойм ратыфікаваў (прыняў) Канвэнцыю з вялікімі дзяржавамі адносна Клайпэды.

## Англійскія фабрыканты проці пазыкі Нямеччыне.

Англійскія фабрыканты падалі абшырны мэмарандум англійскаму парляманту, ў якім высказаліся проці пазыкі немцам, даводзячы вялікую небясьпеку для англійскай прамысловасьці з боку нямецкай канкурэнцыі, якая ўжо цяпер і без пазыкі забівае англійскія тавары.

## У дзясятыя ўгодкі Вялікае Вайны.

У Гамбургу былі забаронены ўсе маніфэстацыі проці паўтарэньня вайны, якія рыхтавалі камуністы на 1-га жніўня.

## Японска-расейскія адносіны.

Новы японскі ўрад вядзе сыстэматычную акцыю ня толькі ў напрамку фармальнага прызнаньня ССРР' але і рэальнага паляпшэньня адносінаў паміж абедзьвюма вялікімі дзяржавамі.

Яркай праявай гэтай палітыкі зьяўляецца рашучая адмова Японіі прызнаць Бэсарабію часткаю Румыніі. Як ведама, Францыя, а нават Англія, зрабілі гэтую страшэнна пагражаючую эўрапэйскаму міру „памылку", якой самі цяпер шкадуюць.

Другім, яшчэ больш выразным, прыкладам гэтай незалежнай ад Антанты палітыкі Японіі зьяўляюцца адносіны яе да кітайска-расейскага паразуменьня і дагавору. Як ведама, уся Антанта, а таксама Амэрыка, вельмі грозна забаранялі Кітаю падпісваць дагавор з ССРР. Але, калі вельмі запужаны Кітай,—ужо нават падпісаўшы ўмову,—гатоў быў паддацца націску наймагутнейшых дзяржаў Эўропы і Амэрыкі, тады падасьпела іхняя „саюзьніца" Японія і парадзіла кітайцам, каб яны... не баяліся гэтых пагроз... Кітай лёгка зразумеў: калі Расея і Японія — з ім, дык яму няма ўжо каго на сьвеце баяцца...

# „Мір" у дзесятыя угодкі вайны.

## Мабілізацыя ў Баўгарыі.

З Белграду наказуюць, што баўгарскі ўрад прызваў на чынную службу 3.000 запасных. Югаслаўскі пасол у Софіі выехаў у сваю сталіцу Белград—паведаміць свой урад.

Югаслаўскі міністар загранічных спраў разаслаў тэлеграмы з пратэстам проці баўгарскае мабілізацыі да ўрадаў Англіі, Францыі і Італіі.

Як у нас ужо пісалася, нядаўна выявілася, што Югаславія і Грэцыя зрабілі змову проці Баўгарыі, пагражаючы супольным нападам на яе ў прыпадку новых нападаў на граніцы Югаславіі баўгарскіх партызанаў. Трэба думаць, што мабілізацыя ў Баўгарыі — гэта адказ на гэную ваенную ўмову.

## Добры прыклад Англіі.

Пасьля прамовы марскога міністра ў парляманце, у якой той заклікаў да новай канфэрэнцыі ў справе супольнага сусьветнага разбраеньня, апазіцыя далікатна зьвярнула ўвагу красамоўнага „пацыфіста" (міралюбца) на тое, што ён толькі-што прад прамовай адсьвяткаваў закладзіны 5-ці новых браніраваных крэйсэраў,—пачаўшы гэткім чынам ізноў тыя самыя выперадкі ў збраеньнях, проці якіх маніцца склікаць канфэрэнцыю.

## Місія міністра Юза.

Вядомы рэспубліканскі сэнатар Юз, адзін з найбольш уплывовых дзеячоў сучаснага амэрыканскага ўраду, аб'яжджае ўсе эўрапэйскія сталіцы, рыхтуючы, як пішуць газэты, „новы процібальшавіцкі фронт". Як можна думаць, супольны фронт буржуазных і „сацыялістычных" урадаў проці ССРР. у першы чарод высуне фінансавую блякаду ССРР, каб змусіць бальшавікоў да капітуляцыі на пэўных варунках. Але зусім ня выключана і аружнае выступленьне.

## Трывога ў Румыніі.

Нямецкая прэса падае сэнсацыйныя весткі аб вельмі напружаным палажэньні ў Румыніі. Усе адпушчаныя афіцэры вызваны ў свае вайсковыя часьці. На „Усходніх Крэсах" Румыніі—ў Бэсарабіі абвешчана ваеннае палажэньне.

## Новая авантура Пятлюры.

З Прагі падаюць, што Пятлюра маніцца ўзнавіць акцыю проці ССРР, але цяпер ужо не ў саюзе з Польшчай, як калісь за часоў „фэдэрацыйнага" прыяцеля Язэпа Пілсудскага, а з Румыніяй. Дзеля гэтага ён ужо запрапанаваў свае ўслугі румынскаму генеральнаму штабу.

---

пункце ў працягу тэрмінаў, паказаных у п. 7, павінны вывучыць гэтыя мовы.

13. Па сканчэньні тэрмінаў, назначаных у п. 7, грамадзяне, не адпавядаючыя патрабаваньням п. 11 і ўвагам да яго, ня могуць быць прыняты на службу ў дзяржаўныя, грамадзянскія і прафэсіянальныя ўстановы і арганізацыі БСРР.

**Увага 1-я.** Выключэньні з гэтага правіла могуць дапускацца з асобнага ў кожным выпадку дазволу: а) у цэнтры — для камісара, ці загадчыка цантральнаю установаю, б) на мясцох — для старшыні акруговага выккамітэту.

Супрацоўнікі, паступіўшыя на службу, ня ведаючы беларускай і расейскай моваў, а ў вызначаных п. 11 выпадках — жыдоўскай ці польскай, павінны вывучыць гэтыя мовы ў працягу 6-цёх месяцаў з дня паступленьня на службу.

**Увага 2-я.** Пры прыняцьці на службу і ажыцьцяўленьні патрабаваньняў п. 7 ад супрацоўнікаў установ патрабуецца толькі веданьне пералічаных у гэтым пункце моваў, незалежна ад таго, да якой нацыянальнасьці належыць супрацоўнік.

14. Для фактычнага выкананьня ўсіх вышэйадзначаных мерапрыёмстваў трэба прапанаваць усім ведамствам і арганізацыям:

а) арганізаваць курсы для служачых па вывучэньню беларускай мовы і

б) падгатаваць адпаведныя штаты і склад супрацоўнікаў дзеля абслугоўваньня грамадзян, насяляючых БСРР.

15. Даручыць Прэзыдыуму ЦВК мець сталы і неаслабны нагляд за выкананьнем азначаных пастановаў.

(*Далей будзе*).

---

# З газэт.

## Хуліганства.

Усім памятны арышт і высылка за літоўскую граніцу 33 беларусаў і літвіноў у часе панаваньня ген. Жэлігоўскага. Высланыя, як вядома, былі арыштаваны бяз ніякае віны. Каб гэты скандальны арышт зьліквідаваць і не дапусьціць да кампрамітацыі „сярэднялітоўскае" ўлады на судзе, з Варшавы загадалі справу зьліквідаваць, і п. Мэйштовіч не знайшоў іншага спосабу ліквідацыі, як выкінуць арыштаваных у Літву.

У аўторкавым нумары абшарніцкая газэта „Słowo", орган вельмі блізкі да таго-ж п. Мэйштовіча, пішучы аб нападзе на Стоўпцы, пазволіў сабе зьмясьціць гэткія радкі:

> У часе, калі ўлада над Сярэдняй Літвой была ў руках п. Мэйштовіча, у Вільні арыштавалі рад людзей, западозраных у падтрымліваньні, супрацоўнічаньні і арганізаваньні палітычнага бандытызму. Але ад імя цантральнага ўраду было загадана зьліквідаваць справу. П. Мэйштовіч, прадугледзіўшы далейшае разьвіцьцё прыпадкаў, спачатку пярэчыў гэтаму, урэшце адаслаў арыштаваных да граніцы, а сам зрокся свайго становішча.

Вось-жа заяву „Słowa" нельга інакш назваць, як самым паганым відам **хуліганства**. Карыстаючыся з таго, што скандальны арышт

